

Год выданьня 66. № 621, Травень - Чэрвень 2016 г.

**Жыве Беларусь!**

# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***



Postal address: **P.O. Box 456 New York, NY 10025 USA**
E-mail: ***bielarus@bazahq.org***


***Шаноўныя чытачы!***

***Прапануем вашай увазе чарговы нумар газэты за травень-чэрвень 2016. За гэтыя вясновыя месяцы ў беларускім жыцьці адбылося шмат цікавых большых і меншых падзеяў, радасных і сумных .***

***Напачатку траўня мы адсьвяткавалі Вялікдзень, і тэма рэлігійнага жыцьця адлюстравана на першых старонках газэты, яна атрымалася даволі шырокай, бо акрамя Вялікадня нашы некаторыя праваслаўныя парафіі адзначылі ў траўні і свае парафіяльныя сьвяты. Адзначылі мы таксама 30-ю гадавіну Чарнобыля і не абыйшлі ўвагаю гэту падзею ў газэце. Былі ў нас госьці, адбыліся цікавыя сустрэчы зь імі і мы паведамляем пра іх. Знойдзеце на старонках газэты і іншыя важныя навіны. Нажаль, не абыйшлося ў гэтым выпуску і без сумных вестак пра адыход у вечнасьць вядомых асобаў.***

***Зьвярніце ўвагу на Каляндар памятных датаў і на абвестківі, пададзеная там інфармацыя можа быць патрэбнай дзеля грамадзкай дзейнасьці.***

***Заклікаем вас больш актыўна далучацца да выданьня нашай газэты, найперш дасылайце свае інфармацыі, артыкулы, абвесткі, віншаваньні. Усё гэта зробіць зьмест нашага выданьня больш багатым і цікавым.***

***Не забывайце падтрымліваць газэту і фінансава, бо ад гэтага найперш залежыць яе далейшы лёс. Гэта наша газэта, і мы самі павінны яе ўтрымоўваць, нам няма больш на каго разьлічваць. як толькі на ўласныя сілы і адказнасьць, каб наш "Беларус" не перапыніў сваё жыцьцё заўчасна. Гэты "летапісец" нашага беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы нам яшчэ вельмі і вельмі патрэбны.***

*Рэдакцыя.*

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Годнаму сьвятарству й вернікам

**Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якія жывуць на Бацькаўшчыне й на Чужыне.**

***"... сёньня анёлы зь людзьмі радуюцца і людзі ў Богу прасьвятляюцца, прымаючы Сьвяты Дух."***
*(сьв. Кірыла Тураўскі "Казаньне на сьвятую Пасху")*

***Дарагія браты й сёстры! ХРЫСТОС УВАСКРОС!***

Штогод мы так віншуем адзін аднаго з найвялікшым хрысьціянскім сьвятам – Уваскрасеньнем Хрыстовым! Сын Божы прыняў цела чалавека й быў укрыжаваны і ўваскрос, каб перамагчы сьмерць. Вера ў васкрослага Хрыста дала людзям патрэбу знайсьці Боскую ісьціну, якая робіць іх духоўна вольнымі й шчасьлівымі. Гэтая падзея, якая адбылася амаль дзьве тысячы гадоў таму, паяднала чалавека з Богам і дала нам надзею на вечнае жыцьцё. Без любові, якую прынёс Хрыстос, не магчыма пераадолець свае грахі й быць у яднаньні з Госпадам, бо Дабравесьце вучыць нас: "Па тым пазнаюць усе, што Вы мае вучні, калі будзеце мець любоў паміж сабою." (Ян. 13:35). Таму той, хто прыняў Хрыста да свайго сэрца, мае любоў да Бога і да блізкага.



Зычу ўсім суайчыньнікам, якія жывуць у Беларусі і ў Замежжы, у гэтыя сьвяточныя дні напоўніць свае сэрцы любоўю да сваіх блізкіх, да свае Бацькаўшчыны, да свае мовы, да Беларускае Царквы, да ўсяго духоўнага скарбу, які захавалі й перадалі нам нашыя дзяды.

Молімся таксама й за ўсіх хрысьціянаў, каб кожны народ мог славіць Бога ў сваёй Царкве, паводле сваіх традыцыяў і абрадаў, на сваёй роднай мове.

Ласка ўваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца й супольнасьць Сьвятога Духа няхай будуць з усімі вамі!

Сапраўды Хрыстос Уваскрос !

Зь любасьцю й малітвамі,

***+ Сьвятаслаў,***
***Архіяпіскап БАПЦ***
*Вялікдзень, 2016 л.Б.*

*Хрыстос васкрос, і свет прачнуўся*
*Лісьцём на гольлечку бяроз,*
*ударыў звон па Беларусі:*
*Хрыстос васкрос! Хрыстос васкрос!*

*Хрыстос васкрос з крыві і болю,*
*каб светач праўды не пагас.*
*Васкрос Ён для крывіцкіх сёлаў,*
*васкрос Ён, брацьця, і для нас.*

*І будзем верыць мы ў кайданах,*
*узняўшы сэрцы ў гару,*
*што так, як Бог укрыжаваны,*
*васкросне й наша Беларусь!*

***Ларыса Геніюш***

## Вялікодныя сьвяты ў Катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага

Сёлетні Вялікдзень прыпаў на 1 траўня, у самы разгар вясны. Праўда, у Нью-Ёрку вясновае цёплае надвор'е прыходзіць пазьней, але беларусам прывычна сьвяткаваць Божае Уваскрашэньне яшчэ ў досыць прахалодны час. Нашы сэрцы больш сагравала чаканьне прыходу весткі пра тое, што "Хрысос Уваскрос!" пасьля пакутаў, сьмерці, пасьля нашага смутку і жалобы. Каб пачуць гэтую вестку і сабраліся ньюёркскія беларусы ў нашым Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ на Атлантык Авэню 401 у Брукліне. У суботні вечар прыйшлі хто раней, хто пазьней на Багаслужбу у храм, які быў перад сьвятам прыгожа аздоблены нашымі вернікамі. Паўсюль стаялі вазы з белымі хрызантэмамі, якія надавалі асаблівую ўрачыстасьць, чысьціню і ўтульнасьць інтэр'еру царквы.



Царкоўная дзея распачалася на жалобнай ноце, мы разам перажывалі ўспаміны пра тыя сумныя падзеі, што адбыліся на Галгофе, думалі пра тое, што і да сёньня яшчэ людзі сваімі нядобрымі справамі і грахамі працягваюць распінаць Хрыста, але ён уваскрасае зноў і зноў і прыносіць нам надзею на збаўленьне. Той момант, калі сьвятар нарэшце абвяшчае нам радасную вестку і ўсклікае "Хрысос Уваскрос", зьмяняе сумны настрой ў радасьць, становіцца сьветла і цёпла на сэрцы і мы дружна сьцьвярджаем "Сапраўды Уваскрос!" Не адчуваецца, што на двары глыбокая ноч, што многія з нас прыйшлі у царкву пасьля цяжкай працы. Сьвяточная Літургія супакойвае душу, надае фізічных сілаў, добрага настрою.



Кожны з нас пакла паціўся пра тое, каб адзначыць сьвята смачнымі стравамі, сярод іх самае пачэснае месца належыцца фарбаваным рознакаляровым яйкам і пірагам — пасхам. Прыгожа наладаваныя і аздобленыя вышыванкамі кошыкі з гэтымі і рознымі іншымі стравамі выстаўлены на сталах у грамадзкай залі. Усе чакаюць наступнага ўрачыстага моманту, калі кошыкі будуць асьвячацца. Пасьля заканчэньня Літургіі прысутныя ідуць у залю і кожны імкнецца стаць бліжэй да свайго кошыка ды прыкінуць, ці не горшы ён за іншых, ці дастаткова прыгожы ды багаты. Сьвятарства распачынае малебен, абыходзіць сталы і асьвячае ўсё, што там стаіць, сьвятою вадою.

Цяпер можна і разгавецца, паспрабаваць сьвянцоныя стравы, найперш яйкі, некаторыя спрабуюць "пабіцца" — чыё яйка мацнейшае, яшчэ з дзяцінства памятаюць пра гэты звычай. Пасьля посту можна нарэшце і вяндлінку зьесьці і каўбаску пасмакаваць. Першы сьвяточны сьнеданак разам з сябрамі, суродзічамі, блізкімі людзьмі. Разыходзімся пад раніцу. Далей ужо сьвята будзе працягвацца ў сямейным коле. І будзем надалей вітаць адзін аднаго "Хрысос Уваскрос!" — "Сапраўды Уваскрос!".

***Ганна Сурмач***

# ВЯЛІКДЗЕНЬ У САЎТ РЫВЭРЫ (Нью Джэрзі)



Пытаньне для прыхаджанаў Царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай пад час сьвяткаваньня сёлетняга Вялікадня было: дзе асьвячаць вялікодную ежу – у царкве ці каля царквы? Бо надвор'е пагражала быць дажджлівым. Ажно сонца зьлітавалася, і нават шчодра асьвятліла наваколле якраз перад урачысьцю. Пры сонечным надвор'і на зялёным лужку каля царквы, пасярод расквітнелых дрэваў невялікага парку цырымонія асьвячэньня прыпадае людзям больш да сэрца. Прыхаджанаў і непрыхаджанаў, як заўсёды, зьбіраецца разоў у дзесяць больш, чымся ў звычайную нядзелю. Вялікія рэлігійныя сьвяты служаць шмат каму нагодай ня толькі памаліцца, але й пабачыцца зь сябрамі ды знаёмымі, якія жывуць воддаль. Новы настаяцель прыходу, а. Канстанцін, быў рады пабачыць больш за двухсотнагаловую грамаду, якую запрасіў наведваць царкву пры ўсіх іншых нагодах.

*Янка Запруднік*

*Фота Надзеі Запруднік*





# Парафіяльнае сьвята ў Гайлянд Парку

У нядзелю 22 траўня 2016 Парафія Сьв. Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайлянд Парку (Нью Джэрзі) сьвяткавала сваё Парафіяльнае сьвята. У суботу вечарам у царкве адбылася Вячорня. Сьвяточную Літургію ўзначаліў архіяпіскап Сьвятаслаў у саслужэньні пратаярэя а. Зіновія, пратаярэя а. Івана і дыякана а.Міколы, а. Паўла Эміка і сьвятароў іншых праваслаўных юрысдыкцыяў з розных штатаў. Пры канцы Набажэнства адбыўся Крыжовы ход з парафіяльнай іконай вакол храму з чытаньнем Дабравесьцяў і акрапленьнем сьвятой вадою. Кожны вернік атрымаў на памяць абразок сьв. Жыровіцкае іконы Багародзіцы.

Потым сьвятарства, парафіяне і госьці сабраліся ў парафіяльнай залі, дзе частаваліся стравамі, руплива падрыхтаванымі парафіяльным Сястрынствам. Старшыня Парафіяльнае рады сп. Якуб Сапяжынскі прывітаў Уладыку, сьвятароў, парафіянаў і гасьцей са сьвятам. Таксама адбылася традыцыйная лятарэя, прызы для якое былі прынесеныя вернікамі, а прыбыткі пойдуць на патрэбы царквы.



# Дзень Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку



У нядзелю 15 траўня 2016 г. Парафія Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 ў Нью Ёрку адсьвяткавала сваё Прастольнае сьвята. Кожны год Парафія ўрачыста адзначае Дзень Сьв. Кірылы Тураўскага, чым імём названы Сабор. Літургію ўзначаліў прыбылы з Таронта дзеля гэтай сьвяточнай нагоды кіраўнік БАПЦ – Уладыка Сьвятаслаў, у служэньні яму дапамагалі дзейныя сьвятары Сабору – пратаярэй а. Іван і дыякан а. Мікола. Напрыканцы Літургіі кожны вернік атрымаў на памяць з рук Уладыкі абразок Сьв. Жыровіцкае іконы Багародзіцы.



Пасьля Багаслужбы сьвята працягвалася ў грамадзкай залі, дзе маладая прыхажанка Сьвятлана Казачок распавяла пра жыцьцё й дзейнасьць аднаго зь вялікіх айцоў Праваслаўнае Царквы – Сьвятога Кірылы Тураўскага, Беларускага Залатавуснага. Вернікі таксама пагледзелі дакументальны гістарычны фільм пра жыцьцё і дзейнасьць асьветніка Кірылу Тураўскага. Далей старшыня Парафіяльнае рады Сабору др. Расьціслаў Гарошка, старэйшы парафіянін, які належыць да прыходу ад часу ягонага стварэньня, распавёў пра гісторыю заснаваньня й пачаткі жыцьця Парафіі галоўнага беларускага праваслаўнага храму ў замежжы.

Таксама вернікі частаваліся сьвяточным столам, падрыхтаваным парафіяльным Сястрынствам.

*Прамоўцы на сьвяткаваньні - др. Расьціслаў Гарошка і Сьвятлана Казачок*



# Галасы беларускіх паэтаў загучалі ў Нью-Ёрку



5 траўня ў грамадскай зале Сабора Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбыўся канцэрт сьпявачкі Таццяны Матафонавай з Менску. Яна таксама прэзэнтавала нядаўна выдадзены з яе ўдзелам зборнік аўдыёзапісаў «Галасы паэтаў».

У альбом увайшлі запісы 60 беларускіх паэтаў, якія чытаюць свае вершы. Сярод іх Якуб Колас, Янка Купала, Ларыса Геніюш, Пімен Панчанка, Натальля Арсеньнева, Анатоль Сыс, Рыгор Барадулін, сучасныя паэты Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Сяржук Сокалаў-Воюш і інш.




# Нязмоўкнае рэха Чарнобылю

24 красавіка беларусы Нью-Ёрка ў Саборы св. Кірылы Тураўскага адсьвяткавалі Вербную нядзелю і адначасна ў грамадзкай залі адзначылі 30-годдзе катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Праграму зладзіла моладзь Бруклінскага аддзела БАЗА. Сяржук Касьцюк, Натальля Федарэнка, Вольга Талатынік і Сьвятлана Казачок зачыталі споведзі людзей, для якіх Чарнобыль стаў асабістай трагедыяй. Гісторыі былі ўзятыя з кнігі Сьвятланы Алексіевіч, якая змагла на паперы перадаць чалавечы боль і пакацаць сапраўдны кошт чалавечага жыцьця.

Пасьля чытаньня «галасоў Чарнобылю» выступіла старшыня Бруклінскага Аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская з інфармацыяй пра ролю БНФ у выкрыцьці праўды пра Чарнобыльскую трагедыю. Натальля Федарэнка распавяла пра палітыку замоўчваньня, якую практыкавала савецкая ўлада. Вольга Талатынік выступіла з рэфератам, у якім разглядаліся сацыяльныя наступствы трагедыі. Сьвятлана Казачок распавяла пра зьмены ў стане здароўя беларусаў за апошнія 30 год і несуцяшальныя прагнозы на бліжэйшую будучыню.

Найбольш дыскусійным было выступленне Сяргея Касьцюка, які гаварыў пра будаўніцтва Астравецкай АЭС і небясьпеку гэтага праекту для Беларусі. Апошнім выступоўцам была Ганна Сурмач, якая распавяла пра гуманітарную дапамогу беларусам на Бацькаўшчыне ад беларускага замежжа, а таксама падзялілася, які сьлед Чарнобыль пакінуў у яе асабістым жыцьці.

*Натальля Федарэнка,*
*фота Віктара Дударава*



# Сустрэчы ў Нью Джэрзі

Пад час свайго візыту ў Нью-Ёрк на сьвяткаваньне Дня Волі паэт і грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з лідэраў апазыцыйнага руху ў Беларусі сп. Уладзімір Някляеў наведаў беларускія цэнтры ў Нью Джэрзі. 8 красавіка ўвечары ён быў госьцем беларускай грамады ў грамадзкай залі пры царкве ў Гайлянд Парку.

На наступны дзень, у суботу 9 красавіка, сп. Някляева чакалі беларусы Саўт Рывэра. Там адбылася цёплая сяброўская сустрэча з тымі нашымі сурodзічамі, якія гуртуюцца вакол Беларускага цэнтру і царквы. Прысутныя цікавіліся падзеямі на Бацькаўшчыне, задавалі пытаньні, распавядалі пра сваё жыцьцё на эміграцыі. Дзяліліся ўспамінамі і нават засьпявалі разам дарагія сэрцу беларускія мелёдыі.



*Ганна Сурмач*

# «Яваровы людзі» адзначаюць юбілей

Сёлета ў чэрвені знакамітаму беларускаму гурту "Яваровы людзі" ў Канадзе спаўняецца 15 гадоў. З гэтай нагоды ў Таронта 28 траўня адбыўся заключны ў гэтым сезоне выпуск праграмы "Мова Нанова", адмыслова прысьвечаны юбілею "яваройцаў".

«Яваровы людзі» атрымалі шмат віншаваньняў з розных куткоў Канады і Беларусі, у тым ліку ад старшыні БНР Івонкі Сурвілы. Зьвяртаючыся да ўдзельнікаў гурта, Івонка Сурвіла, у прыватнасьці, напісала: «Вы сталіся найлепшымі амбасадарамі нашага народу ў Канадзе. Так, як старэйшая эміграцыя захоўвала сваю мову і свае традыцыі, тады калі яны нішчыліся на Бацькаўшчыне, так вы цяпер захоўваеце нашыя каштоўнасьці для будучай вольнай Беларусі».

Прысутныя госьці — сябры з баўгарскага калектыву «Igranka» падрыхтавалі танцавальнае віншаванне для юбіляраў і развучылі з гледачамі баўгарскія танцы.

Упершыню выступ будучага гурту «Яваровы людзі» адбыўся 24 чэрвеня 2001 года ў Кітчэнэры на мультыкультурным фестывалі, у ім брали ўдзел 30 асобаў. Гэта былі сябры Згуртаваньня беларусаў Канады, якія пасля арганізаваліся ў гурт.

Ад пачатку і да сёньняшняга дня калектывам нязьменна кіруе Віялета Кавалёва.

Цягам 15 гадоў у гурце бралі ўдзел больш за 100 чалавек, склад гурта ўвесь час зьмяняўся. На сёньняшні дзень засталіся ўсяго тры ўдзельнікі гурта, якія прысутныя ад самага пачатку: Віялета Кавалёва, Валянціна Шаўчэнка і Надзея Дробіна.

Спеўны залаты фонд «Яваровых людзей» налічвае каля 200 песень. Многія песьні выкарыстаны ў фольк-мюзікле «То-то-то», паказаным падчас 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая праходзіла ў Таронта ў 2012 годзе. Цяпер удзельнікі гурта працуюць над музычным фільмам, зьнятым па гэтым мюзікле.

Выдадзена 2 альбомы: «Іскарка-прыгаўка» і «Вырай». Рыхтуюцца да выхаду альбомы з радзіннымі і застольнымі песьнямі.

«Яваровы людзі» запісалі 5 навагодніх відэапаштовак, якія кожны год імкліва разлятаюцца па ўсім свеце. За мінулы год відэавіншаванка набрала амаль 5 тысяч праглядаў за 2 дні.

Гурт выступіў у 12 гарадах Канады і ЗША. Салістка гурта Аляксандра Саленік брала ўдзел у фолк-фэсце «Камяніца» пад Менскам.

**Са сьвятам юбіляраў пісьмова віншавала і Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.**





# Сустрэча з Франакам Вячоркам

У Нью-Ёрк напачатку траўня чарговы раз наведаўся супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода з Прагі, вядомы моладзевы актывіст Франак Вячорка. Беларуская грамада сустрэла яго ўвечары 3 траўня ў Беларускім цэнтры на Атлантык Авэню 401 з вялікай прыхільнасьцю, бо многім запомнілася папярэдняе спатканьне з ім, калі ён цікава распавядаў пра кампанію папулярызацыі беларускай вышыванкі, якая ахапіла не толькі Беларусь, але і беларускую дыяспару.

Гэтым разам Франак падзяліўся новымі ідэямі пра выкарыстаньне дзеля папулярызацыі беларускай тэматыкі сучасных інфармацыйных тэхналёгіяў, у першую чаргу магчымасьцяў інтэрнэту. Тэма выклікала зацікаўленасьць прысутных, адбылася ажыўленая дыскусія, задавалася шмат пытаньняў і выказвалася шмат канструктыўных прапановаў. Асабліва зацікавілася новымі ідэямі моладзь, якая хоча больш актыўна працаваць у гэтым накірунку.

# New York Times пра Сьвятлану Алексіевіч

Артыкул пра ляўрэатку сёлетняй Нобелеўскай прэміі Сьвятлану Алексіевіч быў надрукаваны ў самай вядомай амэрыканскай газэце ў суботнім нумары за 21 траўня 2016 пад назваю "The Laureate of Russian Misery". Публікацыя ва уікэндавых нумарах газэты лічыцца найбольш ганаровай. Аўтар — Rachel Donadio. Трэба аддаць ёй належнае, што не зважаючы на назву, ужо напачатку аўтарка называе Алексіевіч беларускай пісьменьніцай. У артыкуле распавядаецца пра тэматыку кнігаў ляўрэаткі і паведамляецца пра выхад у ЗША перакладу яе кнігі "Час сэканд-хэнд (Канец чырвонага чалавека)" на ангельскую мову: Svetlana Alexievich. Secondhand Time: The Last of the Soviets. Пераклад Бэлы Шаевіч (Bela Shayevich).

*Ганна Сурмач*

# "Калядная Каза" з "Беларускай Нізанкай" выпраўляюцца ў шоў-вандроўку па Антарыё

**_Хочацца падзяліцца навіною пра мой творчы посьпех. Дзьве мае работы прайшлі сіта конкурснага адбору і былі ўганараваны ўдзельнічаць у перасовачнай шоў-выставе "Threadworks – 2016"._**

"Threadworks" – "выстава выключна крэатыўных работ мастакоў з усёй Канады" (a juried exhibition of exceptional creative needlework stitched by artists from across Canada), якая ладзіцца штотрыгады, работы адбіраюцца на конкурснай падставе, і выстава вандруе па гарадах Антарыё на працягу трох гадоў. Кожнага разу загадзя абвяшчаецца тэма наступнага конкурсу. На 2016 год тэма была "Flashback" ("Погляд у мінулае"). Акрамя работ, трэба прадставіць і кароценькую анатацыю да іх з тлумачэньнямі, што ты тут навышывала. Дарэчы, у гэтым шоў удзельнічаць ня толькі (і ня столькі) вышыванкі, але і пэчўорк, і пацеркі, і змешаныя тэхнікі – усё, што робіцца іголкай з ніткамі. Звычайна з некалькіх соцен работ выбіраюць каля пяцідзесяці. Сёлета іх 45.



Я падавала на конкурс дзьве работы. Абедзьве яны трапілі ў Шоў.

1. Работа "Калядная Каза", выкананая ў зьмешанай тэхніцы: нітаграфікі (canvaswork), вынітаваньне (String Art), чорным-па-белым (Blackwork), шыцьцё золатам (Gold Work), пацеркі (Beeds work), беларуская нізанка (Belarusan Nizanka). Ніткі розныя: шоўк, бамбук, металік...

2. Пано "Кругі на вадзе", выкананае выключна беларускай нізанкай (Belarusan Nizanka).

Работы зараз можна паглядзець, наведаўшы выставу, што цяпер знаходзіцца ў Фергусе, Антарыё (Fergus) – Wellington County Museum. Там яна будзе знаходзіцца да 29 траўня. Потым пераедзе да наступнага мейсца недзе да Kirkland lake (у мяне ёсьць ужо расклад трохгадовых выставаў, хутка ён будзе апублікаваны і на сайце "Threadworks").




Гэта вельмі прэстыжнае шоў. Кожнага разу гэта – падзея ў "ніцяным" мастацтве. Да прыкладу, у маёй Тарантаўскай гільдыі, мае каляжанкі заўсёды надавалі яму асаблівую ўвагу і заўсёды марылі туды трапіць, жылі "ад конкурсу да конкурсу". Трэба сказаць, што мы ганарымся, што работы Тарантаўская гільдыі заўсёды былі там прадстаўленыя. І вось сёлета толькі мае дзьве работы з усёй Гільдыі, ды й з усяго Таронта ўвогуле, туды трапілі. І яшчэ трэба сказаць, што чыста вышывальных работ (тое, чым займаюся я), наколькі я магу судзіць па фотаздымках ў каталёгу, там ёсьць усяго каля дзесяці. З іх – дзьве мае.

Мне ня проста даўся гэты конкурс." Калядная Каза" была гатовая – я яе зрабіла яшчэ год таму (не на конкурс, а для душы), але калі я паказала яе на паседжаньні Гільдыі, распавяла пра сымбалі... усе закрычалі, замахалі: "Тое, што трэба! На конкурс! На конкурс!" ...А вось "Кругі на вадзе" рыхтаваліся адмыслова для конкурсу. Мне хацелася ў поўнай моцы прадставіць "беларускую нізанку". 1-га сакавіка быў першы этап адбору. Для яго трэба было толькі выслаць на емэйл фотаздымкі работ. Я адаслала. Праз пару дзён мне адказалі, што работы прынятыя для ўдзелу ў конкурсе з адмысловым журы. Трэба было прывезьці іх у наяўнасьці ў Фергус, у Музэй. З гэтым мне дапамог мой сябра Алесь Кот. Трэба было везьці работы, уладкаваныя ў надзейныя боксы (што як выдасца ім вандраваць тры гады..?), бо гэта ж Канада: няма машыны не дабярэшся, а я ж безмашынная... Праз тыдзень даслалі паведамленьне, што мае работы прынятыя для ўдзелу ў Інаўгуральным шоў у Музэі ў Фергусе. Запрашалі на ўрачыстае адкрыццё выставы 17 красавіка. Нажаль, мне не ўдалося туды паехаць, бо 16 красавіка выпраўлялася ў адваротны бок, у Атаву для віншаваньня шаноўнай Івонкі Сурвіллы. Сказалі яшчэ, што паведамяць на працягу двух тыдняў, ці трапяць мае работы ў перасовачную выставу, якая будзе вандраваць тры гады па Антарыё. Урэшце атрымала паведамленьне, што "Калядная Каза" з "Беларускай Нізанкай" выпраўляюцца ў шоў-вандроўку па Антарыё!!! Ну вось, цяпер можна мяне і павіншаваць.

*Ірына Верабей*
*(Таронта)*

# Працяг сямейнай традыцыі

Добрая навіна прыйшла ў Рэдакцыю з Кліўлянда. Даслаў яе сп. Сяргей Раманюк. Ён падзяліўся сваёй бацькоўскай радасьцю, што ягоны сын Аляксандр скончыў навучаньне ва унівэрсытэце Агайа і атрымаў дыплём лекара. Аляксандр працягнуў сямейную традыцыю. Ягоны дзед скончыў Гарадзенскі медычны інстытут і працаваў лекарам, бацька - Сяргей Раманюк, доктар медыцыны ў Амэрыцы, амэрыканскім беларусам ён найбольш вядомы, як актыўны грамадзкі дзеяч ў Кліўляндзе.

Пажадаем сп. Сяргею Раманюку дачакацца ўнукаў і дабраславіць іх на далейшае сямейнае служэньне высакароднай лекарскай справе.

*Сяргей Раманюк*
*з сынам Аляксандрам*



# Юбілей беларускай бібліятэкі ў Лёндане

15 траўня спаўнілася 45 гадоў з дня адкрыцьця Беларускай бібліятэкі і музэя імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

Скарынаўская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам беларускіх і беларусазнаўчых выданьняў па-за межамі Беларусі. Там захоўваецца больш за 30 тысяч кніг, якія датычаць розных аспектаў беларусазнаўства, вялікая калекцыя беларускіх перыядычных выданьняў, найперш – эміграцыйных, многіх з якіх няма ў беларускіх бібліятэках, старадрукаў, рукапісаў, архіўных дакументаў, у тым ліку і архіваў Рады БНР, больш за сотню рэдкіх геаграфічных карт. У музэі пры бібліятэцы сабрана цікавая калекцыя старажытных манет, паштовых марак, мастацкіх і этнаграфічных вырабаў, сярод якіх – знакамітыя слуцкія паясы.

Ад заснаваньня ў 1971 годзе нязменным кіраўніком бібліятэкі быў айцец Аляксандр Надсан.

Ад імя нашай Рэдакцыі і чытачоў газэты віншуем Скарынаўку з юбілеем, які набліжае яе да поўстагоддзя. Зычым плённай дзейнасьці, новых здабыткаў і ўдзячных чытачоў.



# Дзень прыемных неспадзяванак

## Да 80-годдзя Івонкі Сурвіллы

**11 красавіка 2016 года дзеючай Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп-ні Івонцы Сурвілла споўнілася 80 гадоў. У гэты дзень група атаўскіх беларусаў начале са старшынём Галоўнае управы Атаўскага аддзелу ЗБК доктарам Пётрам Мурзёнкам наведала юбілярку і цёпла павіншавала яе з Днём народзінаў.**

А ўжо 16 красавіка ў суботу 17 чалавек, сярод якіх былі Першаярарх БАПЦ Архіяпіскап Сьвятаслаў, кіраўніцтва Згуртаваньня Беларусаў Канады, Парахвіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта БАПЦ, Канадыйскага сэктару Рады БНР, гурт "Яваровы Людзі", з Таронта на аўта прыбылі ў сталіцу Канады горад Атава, каб прыняць удзел ва ўрачыстасцях з нагоды 80-гадовага юбілею сп-ні Івонкі Сурвіллы. Таксама ў гэты ж дзень Атаўскі аддзел ЗБК адзначаў 98-я ўгодкі абвяшчэньня БНР.



Старшыня ўрачыстага сходу сп-р Пётра Мурзёнак прадаставіў слова Першаярарху Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Архіяпіскапу Сьвятаславу, які прачытаў Малітву за Беларускі Народ.Старшыня Рады БНР сп-ня Івонка Сурвілла агучыла свой Зварот да Беларускага народу з нагоды 25 Сакавіка.

З дакладам пра гістарычную ролю 25-га Сакавіка на шляху да дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі выступіў сп-р Пётра Мурзёнак.

Старшыня Галоўнае управы Згуртаваньня Беларусаў Канады сп-р Зьміцер Эльяшэвіч прадэманстраваў аўдыторыі якасна аздоблены і ў прыгожай рамцы дакумэнт. Гэта было адмысловае пасланьне прэм'ер-міністра Канады, што сталася атрыманым з ягонага офісу, у якім сп-р Джасцін Трудо цёпла віншуе сп-ню Івонку Сурвілла з 80-гадовым юбілеем і з вялікай прыемнасьцю выказвае ёй свае найлепшыя пажаданьні.

Віншаваньне ад імя Атаўскага аддзелу ЗБК зачытаў сябра Управы Аддзелу сп-р Юрась Шамецька..

У сваёй прамове Старшыня БІНІМ у Канадзе сп-ня Зіна Гімпелевіч назвала сп-ню Івонку адною з найлепшых людзей, якіх сустрэла ў жыцьці. Гісторык сп-ня Галіна Туміловіч узгадала, як пазнаёмілася са сп. Сурвілла і як гэта зрабіла значны ўплыў на фармаваньне ейных поглядаў.

Сакратар Галоўнае управы ЗБК Віталь Кошалеў уручыў сп-ні Івонцы бел-чырвона-белую накідку – пончу, выраблену ягонай жонкай Палінай..

Працягам сустрэчы стаў сьвяточны канцэрт, у якім прынялі ўдзел Валянціна Шаўчэнка, якая выканала беларускія песні, адзін з якіх – "Сцяг" на словы Уладзіміра Някляева – найбольш уразіў сваёй шчырасцю і яскравасцю выкананьня. Юрась Шамецька прачытаў уласныя вершы, клясічны дуэт Галіны Рэзаіпур (скрыпка) і Тэрэзы Бакус (фартэпіяна) выканаў п'есу Вагнера "Лісток з альбома"; дуэт "Кантабіле" у складзе Улады Шамецька (скрыпка) і Быкава (гітара) – папуры вядомых беларускіх песень у суправаджэнні слайдаў беларускіх краявідаў, падрыхтаваных Алесем Каральkевічам. Канцэрт скончыўся выступам вядомага гурта "Яваровы людзі". Гурт выканаў таксама песьню на словы пісьменьніцы Вольгі Іпатавай, кампазіцыя Юрася Жвалікоўскага, прысьвечаную Івонцы Сурвілла. Прагучала і другая песьня, прысьвечаная юбілярцы, на словы Віалеты Кавалёвай, музыка Юрася Жвалікоўскага.

Наперадзе і сп-ню Івонку, і гаспадароў – атаўскіх беларусаў, і гасьцей з Таронта чакала другая частка ўрачыстасьцяў. І неспадзяванак.

Невялікая заля мясцовай францускай рэстарацыі яшчэ ня ведала, і з вялікай доляй упэўненасьці магчыма сказаць, што хіба й ня зьведае ў найбліжэйшай будучыні, такое колькасьці людзей у адметных сьвяточных строях, што гутарылі на незнаёмай мясцовым наведвальнікам мове.

Так сьвяточным банкетам беларуская грамада Канады прадоўжыла віншаваць аднаго са сваіх найстарэйшых і найбольш паважаных калегаў і сяброў – старшыню Рады БНР сп-ню Івонку Сурвілла. На банкеце працягваліся віншаваньні юбіляркі, уручаліся падарункі.

Старшыня Рады Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта сп-ня Надзея Дробіна і Алесь Кот прэзэнтавалі яшчэ адзін падарунак-неспадзеўку юбіляру – кнігу "Скарбы Беларусі".

Удзельнікі сьвяточнае вечарыны з цікавасцю ўспрынялі віншаваньне Алеся Ката. Каларыту ягонаму выступу прыдаў магнацкі строй ВКЛ часоў канцлера Сапегі, што быў выраблены сучасною беларускаю майстрыхаю Вераю Лапука з Пружанаў, Берасьцейшчына.

Сп. Кот выказаў пажаданьне, каб сп-ня Сурвілла сталася Прэзідэнтам БНР, які ўрачыста вернецца на Бацькаўшчыну і ў Менску паставіць свой подпіс пад апошнім дзяржаўным дакумэнтам БНР – Актам аб складаньні паўнамоцтваў Рады Беларускае Народнае Рэспублікі на карысьць новага беларускага дэмакратычнага ўраду Беларускае Дзяржавы. І каб тая эпахальная ў гісторыі Беларускага Народу падзея адбылася 25 сакавіка 2018 году – на 100-годдзе абвяшчэньня Беларускае Народнае Рэспублікі. Сто гадоў змаганьня за Волю Бацькаўшчыны павінны завершыцца нашаю агульнаю перамогаю.

Запамінальным сталася віншаваньне тарантаўскай мастачкі і пісьменьніцы, гаспадыні канадыйскай дызайнерскай кампаніі "Spirit of Belarus" сп-ні Ірыны Варабей. Яна адмыслова для юбіляркі распрацавала дызайн абярэгу і вырабіла гэтую рэч, надаўшы яму назоў "Зорка Алатыр".

З прамоваю-віншаваньнем выступіў сп-р Пётра Мурзёнак, выказаўшы ў адрас юбіляркі цёплыя і шчырыя пажаданьні.

Потым гучалі сьпевы "Яваровых людзей", што падхопліваліся ўсімі за сталом.

У нас засталіся незабыўныя ўспаміны пра прыемныя гадзіны ў гасьцёх у незвычайнага чалавека, які перагарнуў знакавую бачыну ў сваім жыцьці.

Сто гадоў Вам шчасьлівага жыцьця, шаноўная спадарыня Івонка Сурвілла!

***Алесь Кот***
*Таронта*



# Слова на развітаньне

**(сьветлай памяці Вітаўта Мартыненкі, які памёр сёлета 17 красавіка)**

**Не стала шчырага рупліўцы Беларускага Слова, музычнага крытыка, паэта і перакладчыка Вітаўта Мартыненкі. Вітаўт доўгі час працаваў карэспандэнтам, а пасьля і адказным сакратаром у рэспубліканскім беларускамоўным выданьні "Чырвоная Зьмена".**

Вітаўт быў аўтарам музыказнаўчых кніг «Праз рок-прызму» (1989, New York, разам з Анатолем Мяльгуём), «222 альбомы беларускага року і не толькі...» (2006, Менск, разам з А. Мяльгуем), асабістага твора «Rock on-line» (2010, Менск).

Выдаў таксама ў сваёй рэдакцыі з прадмовай і камэнтарамі беларускі пераклад раману Генрыка Сянькевіча Quo Vadis (2002) і асобным выданьнем поўны тэкст названай прадмовы — «Свой сярод чужых (кантэксты, гістарычныя і лінгвістычныя асаблівасьці беларускага перакладу ксяндза П. Татарыновіча)» (2003).

Вітаўт таксама ствараў прозу (вядома пра яго невыдадзены раман "Карабалом"), пісаў вершы, якія друкаваліся ў беларускіх і замежных часопісах, перакладаліся на ўкраінскую, польскую мовы, выдаваліся ў кніжных зборніках і на кампакт-дысках папулярных рок-гуртоў («P.L.A.N.», «Tesaurus», «Dead Marsh», украінскага гурта «Цінь сонця»).



Працы: больш за 200 публікацыяў на тэмы нацыянальнай музыкі, літаратуры, грамадзка-палітычнага жыцьця.

Дзякуючы яго руплівасьці й ідэям у рамках музычнай старонкі "Чырвонай Змены" "Нотны Аркуш" выдаваліся артыкулы, прысьвечаныя беларускім рок-гуртам і бардам. Так былі "выведзены" з глыбокага падполья першыя беларускамоўныя гурты "Мроя", "Магістрат", "Бонда", "Рэй", "Дзіда", барды С. Сокалаў-Воюш, А. Камоцкі, В. Цярэшчанка і шмат іншых.

Затым на аснове апублікаваных артыкулаў ў Канадзе і ЗША была выдадзена сумесная кніга "Праз рок-прызму" (1989), рукапіс якой гераічнымі высілкамі праз савецкі "жалезны кардон" правёз ў міжнародным вагоне Вітаўт.

Адным з праектаў "Нотнага Аркуша" і яго заснавальнікаў — В. Мартыненкі і А.Мяльгуя — было стварэньне ў Мінску першага рок-клюбу. Гэтую ідэю, пасьля адпаведных публікацый ў "ЧЗ" падтрымаў ЦК ЛКСМБ. З гэтага факту і распачаўся першы фестываль беларускай рок-музыкі "Тры колеры", а таксама і сам рок-клюб, прэзыдэнтам якога быў абраны аўтар гэтых радкоў, а Вітаўт стаў намесьнікам, рабіў свой важны ўнёсак у працу клуба – вёў перамовы з прадстаўнікамі аддзела культуры Мінгарвыканкама, тлумачыўшы ім што значаць рэдкія беларускія словы і што тэксты гуртоў не нясуць небясьпеку "савецкаму чалавеку".

Яшчэ адзін праект, да якога спрычыніўся крэатыўны талент В.Мартыненкі — арганізацыя паездкі і ўдзелу гурта "Бонда" ў міжнародным рок-фэсце "Літуаніка-1986". Дзякуючы яго аператыўнасьці і ўменьню дамаўляцца ўпершыню беларускамоўны гурт прадставіў сваю творчасьць на буйным міжнародным рок-фэсьце.

Але не толькі рок-журналістыкай і музычнай крытыкай цікавіўся Вітаў. В. В.Мартынека быў сябрам "Талакі", літаратурнай суполкі "Тутэйшыя", у газеце "Чырвоная Зьмена" стварыў суполку падтрымкі БНФ. А яго мадэрновую куртку з лягатыпам "Я — беларус" ведалі пра ўсёй Беларусі!

Апошняя кніга Вітаўта Мартыненкі «Rock on-line» (2010, Менск) стала для майго сябра своеасаблівым рубіконам. І Вітаўт пераадолеў яго з гонарам — увесь наклад ім быў рэалізаваны, чым ён даказаў песымістам, што беларускамоўнае выданне мае свайго аддананга чытача, а беларуская рок-музыка, масавая культура на роднай мове, якой ён прысьвяціў усё жыцьцё, мае вялізарны стваральны патэнцыял.

Бывай, дружа, няхай беларускай зямля стане табе вечным прытулкам і супакаеньнем для тваёй збалелай душы...

***Анатоль Мяльгуй***

# Каляндар памятных датаў на чэрвень-ліпень 2016

## Чэрвень

**1 чэрвеня - Міжнародны дзень абароны дзяцей**

**4 чэрвеня - 30 гадоў** таму, у 1986 годзе, у Маскве **памерла Канстанцыя Буйла**, паэтка

**5 чэрвеня - Міжнародны дзень аховы навакольнага асяроддзя**

**6 чэрвеня - 175 гадоў** таму, у 1841 годзе, **нарадзілася Эліза Ажэшка**, пісьменьніца

**7 чэрвеня - 40 гадоў** таму, у 1976 годзе, **памёр Міхась Машара**, пісьменьнік

**8 чэрвеня - 135 гадоў** таму, у 1881 годзе, **нарадзіўся Віктар Зелязей**, удзельнік нацыянальнга руху пачатку 20 ст.

**8 чэрвеня - 60 гадоў** таму, у 1956 годзе, у Лодзі **памёр Язэп Фарботка**, паэт, грамадзка-культурны дзеяч

**9 чэрвеня - 135 гадоў** таму, у 1881 годзе, **нарадзіўся Іван Луцкевіч**, грамадзка-палітычны дзеяч, археоляг, этнограф

**11 чэрвеня - 90 гадоў** таму, у 1926 годзе, **нарадзіўся Дмітрый Сямёнаў**, літаратар, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**12 чэрвеня - 105 гадоў** таму, у 1911 годзе, **нарадзіўся Мікола Панькоў**, журналіст, дзеяч эміграцыі у Нямеччыне і ЗША

**14 чэрвеня - 120 гадоў** таму, у 1896 годзе, **нарадзіўся Пётра Татарыновіч**, сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Італіі й Ватыкане

**22 чэрвеня - 120 гадоў** таму, у 1896 годзе, **нарадзіўся Браніслаў Туронак**, культурна-грамадзкі дзеяч, публіцыст, бацька гісторыка Юркі Туронка

**22 чэрвеня - 75 гадоў** таму, у 1941 годзе, **пачатак вайны паміж гітлераўскай Нямеччынай і Савецкім Саюзам**

**23 чэрвеня - 70 гадоў** таму, у 1946 годзе, у Рэгенсбургу **заснавана Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Францішка Скарыны**

**24 чэрвеня - 40 гадоў** таму, у 1976 годзе, **памёр Оскар Марыкс**, тэатральны мастак

**29 чэрвеня - 120 гадоў** таму, у 1896 годзе, **нарадзіўся Уладзіслаў Казлоўскі**, грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, выдавец

## Ліпень

**5 ліпеня - 15 гадоў** таму, у 2001 годзе, у Менску **пачаўся Трэйці зьезд беларусаў сьвету**

**7 ліпеня - 220 гадоў** таму, у 1796 годзе, **нарадзіўся Ян Чачот**, асьветнік, паэт, філамат

**15 ліпеня - 140 гадоў** таму, у 1876 годзе, **нарадзілася Алаіза Пашкевіч (Цётка)**, паэтка, грамадзка-палітычны дзеяч

**15 ліпеня - 90 гадоў** таму, у 1926 годзе, **нарадзіўся Ян Садоўскі**, навуковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе

**16 ліпеня - 115 гадоў** таму, у 1901 годзе, **нарадзіўся Аляксандр Крыт**, рэлігійны і грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША

**16 ліпеня - 40 гадоў** таму, у 1976 годзе, **памёр Янка Станкевіч**, грамадзка-культурны і палітычны дзеяч, мовазнавец, выдавец, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**21 ліпеня - 125 гадоў** таму, у 1891 годзе, **нарадзіўся Сымон Кандыбовіч**, грамадзка-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

**23 ліпеня - 110 гадоў** таму, у 1906 годзе, **нарадзіўся Антон Валынчык**, хормайстар, кампазітар

**23 ліпеня - 50 гадоў** таму, у 1966 годзе, ў Іллінойсе **памёр Аляксандр Ружанцоў**, грамадзка-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі у Нямеччыне і ЗША

**24 ліпеня - 120 гадоў** таму, у 1896 годзе, **нарадзіўся Аляксандр Орса**, педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцы ў Нямеччыне і ЗША, дырэктар Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы у Нямеччыне

**25 ліпеня - 100 гадоў** таму, у 1916 годзе, **нарадзіўся Мікалай Каранеўскі**, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**25 ліпеня - 10 гадоў** таму, у 2006 годзе, **памёр Янка Брыль**, пісьменьнік

**27 ліпеня - 110 гадоў** таму, у 1906 годзе, **нарадзіўся Ежы Гедройц**, грамадзкі дзеяч, рэдактар польскага часопісу "Культура", які актыўна спрыяў разьвіцьцю беларускай культуры

**31 ліпеня - 35 гадоў** таму, у 1981 годзе, **памёр Міхась Ларчанка**, літаратуразнавец і крытык

# Рыцар прыгажосьці

Сп. Хведар Нюнька напісаў з нагоды сьмерці сябра: "Меў шмат творчых планаў, задумак, радаваўся вясьне, квітнеючай прыродзе, ды, нажаль, усё абарвалася.

Але, будуць жыць яго творы:

*"І верыць, і баяцца, і прасіць*
*Ты будзеш, хоць і ведаеш,*
*што нельга*
*І хадакі жалезныя насіць*
*І жыць,*
*нібыта ў сьвеце паралельным*
*І з вернай да апошняга сястрой*
*Надзеяй, не разлучышся ніколі*
*І будзеш ты змагацца сам з сабой*
*Самотным воінам*
*у чыстым полі....."*
***(Алег Аблажэй)***

Алег Аблажэй нарадзіўся 6 траўня 1954 г. у вёсцы Лезнявічы Дзятлаўскага раёна Гарадзенскай вобл. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1977), Вільнюскі дзяржаўны мастацкі інстытут (1985).

Працаваў мастацкім рэдактарам газеты «Рунь», мастацкім афарміцелем дзіцячага часопіса «Лола».

Займаўся жывапісам, акварэллю, ілюстраваў кнігі. У яго афармленні ў Беларусі выйшлі творы В. Жуковіча «Гуканне вясны», Д. Бічэль-Загнетавай «Гараднічанка», у Маскве — «Шведскія казкі» Э. Хэмінгуэя, «Сербская паэзія», у Вільні — «Казка пра Султана» і інш. У 1984-1986 у Літве выдадзена серыя канвертаў з партрэтамі літоўскіх дзеячаў, аформленая А. Аблажэем, а таксама серыя паштовак. Працы Алега Аблажэя неаднаразова выстаўляліся ў Літве, Польшчы, Германіі, Эстоніі, Латвіі, Беларусі.

Быў сябром рады Таварыства беларускай культуры ў Літве і суполкі беларусаў-мастакоў Балтыі «Маю гонар». Нядаўна Хведар Нюнька перадаў Алегу Аблажэю паўнамоцтвы дырэктара культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні.



18 траўня 2016 г. у Вільні раптоўна памёр мастак, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч Алег Аблажэй.

## Заўчасна абарванае жыцьцё

Беларусы Нью-Ёрку мелі магчымасьць пазнаёміцца з Алегам Аблажэям і ягонай творчасьцю пад час выставы, якая адбылася ў залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401. Нехта набыў ягоныя абразы і мае іх у сваёй хаце. З таго часу мы трымалі з Алегам пастаянную сувязь. Старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА, які арганізоўваў выставу, Тацьцяна Красоўская сябравала з Алегам, падтрымлівала яго маральна ў цяжкіх жыцьцёвых абставінах, дапамагала фінансава. Алег цяжка хварэў, жыў на дыялізе, аднак памёр на інфаркт. Ня меў добрых умоваў для жыцьця і падтрымкі здароўя.

Сёлета Тацьцяна і Алег дамовіліся аб сустрэчы ў Вільні, Алег марыў паказаць ёй беларускую Вільню. Тацьцяна запляновала паездку ў Беларусь з тым, каб адначасна наведаць і сямью Аблажэяў. Яна пазваніла мне з лётнішча, што ўжо адлятае ў Беларусь і цешылася на сустрэчу з сябрам. Пасьля званка я адчыніла інтэрнэт і пабачыла сумную вестку пра раптоўную сьмерць Алега. Заўчасна абарванае жыцьцё. Тацьцяна наведала Вільню, сустрэлася з жонкаю Алега мастачкаю Крысьцінаю Балаховіч, каб падтрымаць яе ў гэты цяжкі час, яны хадзілі па Вільні ўжо без Алега. Крысьціна перадала для нашай газэты гэтыя сумныя развагі з нагоды страты блізкага чалавека.

***Ганна Сурмач***

## У ПАМЯЦЬ ПРА АЛЕГА АБЛАЖЭЯ

Сумная вестка прыйшла з Бацькаўшчыны. У Вільні памёр Алег Аблажэй. Апошнім часам складваецца такое ўражаньне, што паміраюць толькі добрыя людзі, а злыя жывуць доўга, яны ўжо амаль бессьмяротныя і множацца, множацца...

Яшчэ адна ахвяра злога лёсу, Чарнобыля і цяжкага жыцьця. Алег быў добры мастак-жывапісец і графік, творца сьветлага вобразу, чулы на ідэальнасьць, ён быў амаль чужым у антымастацкім сьвеце сучаснай эўрапейскай неэстэтыкі і нехараства. Як і шмат якія беларускія мастакі, Алег тонка і глыбока разумеў філасофію мастацтва, пісаў пра тое, ствараў кніжкі і казкі, ілюстрацыі аб прыўкрасным. Зь ім цікава было разважаць пра творчасьць і плыні, ён пісаў вершы пра тое, што думаў і перажываў, "і тугі ў сьпевах" ужо ня мог схаваць, тугі аб будучыні ў велічным сьвятле. Хай сьвеціць яму тое сьвятло там далёка, у вечным і лепшым жыцьці.

Алег быў аднадумцам і прыхільнікам беларускага Адраджэньня. Памятаю 1989 год, калі ён з Крысьцінай прыяжджаў зь Вільні ў Менск на першыя соймы БНФ, калі ажыцьцяўляліся нашы надзеі. Некалькі гадоў таму Алег быў у Нью-Ёрку, паказваў выставу сваіх прыгожых твораў у залі царквы сьвятога Кірылы Тураўскага. Да гэтага часу памятаем тыя харошыя дні. Беларускае мастацтва панесла шчымлівую страту. Алег яшчэ шмат стварыў бы твораў, увасобіў бы ў іх вечнае хараство дзеля радасьці і квітненьня Беларусі.

Глыбокае маё спачуваньне жонцы і паплечніцы Алега — Крысьціне ў вялікай страце і ў вялікім горы. Вечная памяць Алегавай душы, які ведаў, што хараство не мінае, бо месьціцца ў вечнасьці.

***Зянон Пазьняк***
*19 траўня 2016 г.*

# Адляцеў пялёсткам...

18 траўня гэтага году адляцеў пялёсткам у вечнасьць мастак, літаратар, сьветлы душою, дарагі мне чалавек АЛЕГ АБЛАЖЭЙ. І больш не пакліча да стала на рупліва прыгатаваную ІМ гарбату, або страву з якогась рэцэпту з інтэрнэту, не паклапоціцца, не патэлефануе і не спытае, дзе я, і ў якім я знаходжуся месцы, не стварыць новага праекту сукні менавіта для мяне..., і ўжо ніколі не сустрэну Яго ў горадзе выпадкова, зусім не дамовіўшыся.

Хацеў жыць, каб зрабіць тое, чаго не зробіць ніхто іншы. Каб праз яго ў гэты сьвет прыйшлі рэчы, прааднікам якіх па-за ім ня можа быць ніхто іншы. Сумна, крыўдна і пуста без ЯГО.

*І сорак пройдзе дзён і год, і больш,*
*Прытупіцца,*
*і зарасьце травою сенажаць.*
*І будзе новым усё, і навіны ўсе.*
*І толькі пустка застанецца*
*навечна ў табе.*

Адляцеў пялёсткам, калі цьвілі яблыні. Так любіў гэтую пару, калі ў прыродзе ўсё лёгкае, далікатнае, з багатымі адценьнямі зеляніны, і да восені яшчэ далёка. І сонечнае сьвятло, і ўсе смакі жыцьця — усё без ЯГО будзе іншым. Той невялікі адрэзак жыцьця разам з ІМ праляцеў нібы ветрык веснавы... бо НАМ было добра і сьветла.

АЛЕГ мог прафесійна намаляваць малую кузурку, прыдумаць плякат, перадаць сонечнае сьвятло ў краявідзе, адлюстраваць у самай складанай позе чалавечую постаць і намаляваць складаны партрэт. Толькі вось у багатым грамадзтве талент — гэта годнасьць, а ў бедным — прыніжэньне. Быцьцё мастаком у такім грамадзтве - гэта адчуваньне ўласнай непатрэбнасьці.

Сумаваў, што навокал усё пусьцей і пусьцей, усё меней інтэлектуальнага паветра. Ад таго, што паменшала блізкіх ЯМУ, ЯГОНАЙ "групе крыві". У мастацтве ЁН выйшаў на новы этап — даўно ўжо стаў самім сабою. Цяпер ЯМУ былі патрэбныя толькі ўмовы для працы, ну, і здароўе, вядома. У сьвеце, які ствараў сваім мастацтвам, не было так холадна, як у рэальным. Магчыма, ён сваімі творамі сагрэе й яшчэ каго-небудзь.

Асаблівай і вечнай тэмаю ягонай творчасьці былі постаці жанчын, самыя розныя — маці, каралеўна, спакусьніца ці проста прыгажуня. У ЯГОНЫМ уяўленьні яны ёсьць інструмэнт, пры дапамозе якога прырода дэманструе сваю красу, жанчына для ЯГО — сымбаль прыгажосьці.

ЯГОНУЮ душу разьдзіраў боль, што страціў бацькоўскі дом. Неяк выказаўся, што чалавек поўнасьцю сірацее тады, калі траціць не толькі бацькоў, але і бацькоўскі дом.

Успамінаецца рознае, як вясёлае, так і балючае. Аднойчы прыйшоў АЛЕГ у Віленскую ратушу запісацца на правядзеньне ягонай выставы. А дырэктарка (дарэчы сама вучылася ў Акадэміі мастацтваў) сказала, што ягоных працаў не павесіць, бо не хоча ганьбіцца, яе за гэта яшчэ могуць з працы выгнаць.

Пісаць пра АЛЕГА можна шмат, ЁН пакінуў багатую спадчыну. Кожны год ЁН пачынаў новы нататнік, дзе запісваў свае думкі, адчуваньні, часам прыходзілі вершы:

*Сястра мая, Краса, і ты ў бядзе,*
*У тваіх палацах раскашуюць хамы,*
*І больш цябе ніхто нідзе*
*Чароўнай не называе Дамай.*
*І рыцараў тваіх кардонныя мячы*
*Зламаліся й дасьпехі пражравелі,*
*І трубадур разгублены маўчыць,*
*І пажы-хлопчыкі дарэшты пасівелі.*
*А ты маўчыш і спраў няма табе*
*Да здрадаў і капрызаў чалавечых.*
*Краса не мітусіцца ў барацьбе,*
*Бо ведае,*
*што ёй належыць вечнасьць.*

***Крысьціна Балаховіч***

# Сьв. памяці МІХАСЯ СЕНЬКІ
## (1-II-1922 – 29-III-2016)



66 гадоў свайго жыцьця, пачынаючы з 1950 г., Міхась Сенька пражыў у гарадку Саўт Рывэр у штаце Нью Джэрзі. Тут ён быў беларусам зь вялікай літары: нястомным працаўніком на самых розных грамадзкіх, палітычных і царкоўных становішчах, шчодрым гаспадаром свайго гасьціннага дому, заўсёды адкрытага для пачынальнікаў жыцьцёвага дасьведчаньня на "запаветнай" амэрыканскай зямлі.

Паводле уласнаручнай аўтабіяграфіі, выпісанай пад канец жыцьця ім жа на сваёй неадлучнай машынцы, Міхась коратка вылажыў свой 94-гадовы жыцьцёвы шлях (падаецца ў скароце – Янка Запруднік).

* * *

Нарадзіўся я ў мястэчку Новы Сьвержань 1 лютага 1922 годзе. Мае бацькі: Аляксандар і Сафія (дзявочае прозьвішча Пальчэўская). Абое нарадзіліся ў 1885 г. ў Новым Сьвержані. Маці памерла 20 красавіка 1957 г. і пахавана на могілках у Зэедорфе каля Брэмэна (Нямеччына). Бацька памёр 14 кастрычніка 1968 г. і пахаваны на могілку ў Оснабруку.

Вучобу я пачаў у польскай школе. З прыходам савецкай улады ў 1939 г., пераведзены ў 5-ы клас, вучыўся тамсама. Там жа вучыўся й пры немцах у 1941 годзе. Дырэктарам школы тады быў Васіль Кендыш.

У 1942 г. у Баранавічах адкрылі школу сярэдняга мэдычнага пэрсаналу і я паехаў туды вучыцца. Дырэктарам школы быў др. Віктар Войтанка, а заступнікам – а. Леў Гарошка. Нас вучылі на будучых фэльчароў, сёстраў і аптэкараў. Я пайшоў у аптэкарскім напрамку. У міжчасе скончыў курсы кіраўнікоў Саюзу Беларускай Моладзі ў падрыхтоўчым лягеры Альбэртын у 1943 годзе.

Пасьля заканчэньня мэдычнай школы быў назначаны на кіраўніка раённае аптэкі ў Стоўпцах. Быць ім давялося нядоўга. У канцы чэрвеня 1944 году я з бацькамі пакінуў Новы Сьвержань і апынуўся ва ўсходняй Прусіі, а пасьля – каля Брэмэна. Там застала нас 9 траўня 1945 г. капітуляцыя Нямеччыны. Адтуль мы перабраліся ва ўкраінскі лягер Гайдэнаў, што каля Гамбурга, а ўвосень 1945 г. – у беларускі лягер Ватэнштэт, камандантам якога быў Сьвятаслаў Коўш.

У лягеры была праваслаўная царква з настаяцелем а. Аўгенам Сурвілам, дзіцячы садок, пачаткавая школа, дырэктарам якое быў Язэп Гладкі, гімназія імя Максіма Багдановіча, дырэктарам якое быў спачатку Вацлаў Пануцэвіч, а пасьля Уладзімер Сенька (мой брат) і беларуская скаўцкая арганізацыя.

Давялося мне запісацца ў гімназію, каб атрымаць поўную матуру й мець магчымасьць паступіць ва ўнівэрсытэт. У 1947 г., атрымаўшы матуру, я залічыўся ва Украінскі Тэхнічна-Гаспадарчы Інстытут у Мюнхэне на фармацэўтычны факультэт. Быў сябрам Беларускага Студэнцкага Сюзу ў Мюнхэне, старшыня Антон Бяленіс.

Інстытут я ня скончыў. У 1950 г. давялося вяртацца ў Ватэнштэт, бо лягер ліквідаваўся. Мы з бацькамі й братам перабраліся ў лягер Зэедорф. Адтуль я выехаў у Амэрыку, і ўжо ў траўні 1950 г. мой параплаў "Баллоў" прыбыў у Нью Ёрк. Тут мяне спаткалі Віктар Чабатарэвіч і др. Анатоль Плескачэўскі, які забраў мяне да сябе ў Нью Брансьвік. Адтуль я пераехаў у Саўт Рывэр.

У кампаніі "Форд" у суседнім Эдысане я адпрацаваў 36 гадоў і выйшаў на пэнсію. Быў актыўным парафіянінам у беларускай праваслаўнай царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай ад пачатку яе заснаваньня ў 1950 годзе. 15 верасьня 1995 г. ажаніўся з Валянцінай Жукавец і пад шчырай яе апекай пражыў да апошніх дзён майго жыцьця.

Шчыра Табе дзякую, Валечка!

***Міхась***

Дарагія сябры!

Сардэчна запрашаем Вас на 32-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі!

Атава 2016



3-5 верасьня 2016 г.




**У архіве Царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры захавалася шмат асобнікаў кнігі, выдадзенай Іванам Касяком у 1989 годзе пад назваю Byelorussia. Historical outline.**

***Жадаючыя могуць атрымаць кнігу бясплатна, патрэбна толькі аплаціць кошт перасылкі, або прыехаць у Саўт Рывэр і ўзяць кнігу асабіста.*** **Кошт перасылкі:**
**ЗША - $ 6.80, Канада - $ 15.50, Эўропа - $ 22.50, Аўстралія - $ 22.50**
**Зьвяртацца на адрас або email:**
**gnaumczyk@verizon.net**
**George Naumczyk**
**42 Colin Dr.,**
**South River, NJ 08882**

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Беларускі цэнтр у Саўт Рывэры | $ 50 |
| Янка Барысевіч | $ 50 |
| Янка і Надзя Запруднік | $ 100 |
| Марыя Данілюк | $ 50 |
| Сяргей Касьцюк | $ 50 |
| Жанна Карнілава | $ 30 |
| Сяргей Кіяткін | $ 50 |
| Жорж Наумчык | $ 50 |
| Юлія Самайлюк | $ 50 |
| Вячка Станкевіч | $ 50 |
| Нікалас Сьнежка | $ 100 |
| Вольга Талатынік | $ 50 |

**Вельмі дзякуем усім ахвярадаўцам і запрашаем іншых чытачоў браць прыклад з іхнай ахвярнасьці і адказнасьці!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
Ганна СУРМАЧ
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
Таня КРАСОЎСКАЯ
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
Галіна ПАДЛЕСКАЯ
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
Натальля СТАРАВОЙТАВА



Паштовы адрас Рэдакцыі:
BIELARUS Newspaper
P.O. Box 456
New York, NY 10025
USA
Электронны адрас (E-mail):
bielarus@bazahq.org

Кампутарная вёрстка
Mikalai Media Productions